


*З родным словам кроў не стыне...*
*А. Бабаед*

# КАРДОН

**№4**

*лістапад* **1999**

**Інфармацыйна – публіцыстычны бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

## ВІНШАВАННЕ АЛЕСЮ БАБАЕДУ



24 лістапада ў Мінску на паседжанні Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі быў урачыста ўручаны членскі білет гэтага творчага саюза нашаму таленавітаму земляку Алесю Бабаеду. Гэта не ўзнагарода, а заканамернае прызнанне, бо ўзровень творчасці Алеся заслугоўвае такой ацэнкі.

Адным з першых павіншаваў Алеся яго сябра Георгій Станкевіч, які таксама прысутнічаў на паседжанні Рады.Не менш прыемна было атрымаць віншаванні і ад знакамітых прызнаных майстроў слова, сярод якіх Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Леанід Дранько-Майсюк, Сяргей Законнікаў, Навум Гальпяровіч і іншыя.

**ШАНОЎНЫ АЛЕСЬ!**

Мы яшчэ раз шчыра віншуем цябе, жадаем моцнага здароўя, творчага натхнення, поспехаў ва ўсім, душэўнай раўнавагі і веры, што не загіне мова, на якой ты пішаш свае пранікнёныя вершы.

Чакаем тваіх новых твораў !

*Сябры па Бешанковіцкай суполцы ТБМ імя Ф. Скарыны*

## СВЯТА ВЁСКІ



У нядзелю 31 кастрычніка ў Старых Ранчыцах адбылося свята вёскі. Надвор'е не падкачала , з раніцы трохі хмурылася, але акурат у адзінаццаць гадзін выглянула сонейка і засталося на небе да канца дня.

Са 170 жыхароў вёскі на свята сабралася амаль палова. Палявыя работы ўжо скончыліся, чаму ж не пасвяткаваць, сустрэцца з суседзямі, успомніць мінулае,абмеркаваць навіны сённяшняга дня.

Кароткім уступным словам адкрыла свята сакратар Верхнякрывінскага сельскага савета, на жаль пакойная ўжо, Валянціна Іосіфаўна Карась. Затым адбыўся святочны канцэрт, падрыхтаваны кіраўніком Верхнякрывінскага Дома культуры Л. В. Скрабло. Самадзейныя артысты прысвячалі свае песні і прыпеўкі лепшым людзям вёскі, яе старажылам і працаўнікам: Мацюш Ганне Тарасаўне, Дзенісевіч Аўдоцці Пятроўне, Берднік Марыі Гаўрылаўне, Белавус Кацярыне Аляксееўне і іншым. Успомнілі дабрым словам і Шамак Лізавету Прохараўну, працаваўшую ў маладосці трактарысткай у МТС.

У святочным канцэрце прыняў удзел і мясцовы паэт і выканаўца ўласных песен Георгій Станкевіч, выступленне якога спадабалася землякам.

А потым падвезлі пачастункі: марожанае, цукеркі, напіткі. І доўга яшчэ не разыходзіліся дахаты людзі, бо не так часта ў нашым цяперашнім жыцці адбываюцца святы.

*Ж. Крывінскі*

## ВУЛІЦА

Зноўку іду роснай ранішай,
Зноў маю добры настрой.
Аднавяскоўцам кланяюся.
У сэрцы ж расце непакой.

Сонейка ў небе, ці хмурыцца -
Гэта цяпер не кране.
Родная пыльная вуліца
Кліча ўдалеч мяне.

Вуліца, родная вуліца,
Колькі б гадоў ні прайшло,
Сэрца грукоча, хвалюецца,
Толькі ступлю ў сяло.

Вуліца, родная вуліца,
Радасны смех дзетвары,
Кот на завалінцы жмурыцца,
Ладкамі пахне ў двары.

Улетку прайду да ваколіцы
Ці да ракі басанож
І не магу супакоіцца
Ад хараства зноў і зноў.

Ўзімку дымкамі затуліцца,
Зоркамі свеціць уначы.
...Вочы закрыеш і вуліцай
Зноў у дзяцінства імчыш.

**Г. Станкевіч**

## МАЯ ВЁСКА

Стаяць ля дарогі з вачыма закрытымі
Маўкліва, гаротна і з нейкай журбой
Забытыя Богам і людам забытыя
Старыя хаціны у вёсцы маёй.

Ці сонца іх паліць бязлітасна ўвесну,
Ці дождждык ціхенька імжыць на стрэсе,
Ніхто не спаткае нікога ля веснічак,
Ніколі ліста да іх не прынясе.

Для іх адшумелі вяселлі гуллівыя,
Адплакалі вочы, адпелі басы.
І толькі вось зорнай парой мігатліваю
Ім родныя сняцца адно галасы.

Глядзяцца у шыбы маўклівыя вішанькі,
Дарожкі ўжо пазарасталі травой...
Здаецца, у гэтай трагедыі сціпшанай
Нямая часцінка прыроды самой.

Стаяць ля дарогі з вачыма закрытымі
Маўкліва, гаротна і з нейкай журбой
Забытыя Богам і людам забытыя
Старыя хаціны ў вёсцы маёй.

* * *

Мне не трэба, не трэба, не трэба
Ні асфальту, ні стромкіх паверхаў.
Мне б хусцінагчку чыстага неба
Ды гайданне калоссяў на ветрыку.

Мне б сваімі падэшвамі голымі
Зноў адчуць хараство пульхнай глебы.
Чарку выпіць з сябрамі-знаёмымі.
Болей што? А нічога не трэба!

*Вершы **Г.Станкевіча**, якія гучалі на вечары ў Паліцах.*

# СУСТРЭЧА З ПАЭТАМІ

У Паліцкай бібліятэцы адбыўся вечар паэзіі пад назвай “ Калі прыходзіць натхненне...”На вечар былі запрошаны мясцовыя паэты: Марыя Арцямёнак, Любоў Грыгаровіч,Георгій Станкевіч і Уладзімір Асокін. Сярод слухачоў – калгасныя спецыялісты і настаўнікі, школьнікі і пенсіянеры. На стале -самавар з чаем і пачастункі.

Калі ж яно прыходзіць, натхненне? Калі сэрца перапоўнена першым каханнем, рука сама цягнецца да паперы і алоўка. Часам жа толькі беламу лісту чалавек можа даверыць свой боль і смутак. Ва ўсе часы натхняе паэтаў прырода, каго вясна, каго зіма ці восень. У кожнага сваё адчуванне хараства і прыгажосці. Амаль агульная для ўсіх тэма – любоў да маці і да Радзімы.

Лепш за ўсё могуць расказаць аб сваёй творчасці самі паэты. Яны жывуць сярод нас. Вось і на нашым вечары запрошаныя паэты расказалі аб сваіх першых паэтычных кроках, творчых задумках і здзяйсненнях. І. Канепіне, чыталі свае вершы. А Георгій Станкевіч прыехаў з гітарай, бо ён не проста паэт,ён яшчэ і бард –сам піша музыку да сваіх вершаў і сам выконвае іх. Вядома ж ён пакарыў прысутных сваім выкананнем.

Шчырымі апладысментамі былі ўзнагароджаны і ўсе астатнія.

Такія сустрэчы заўсёды запальваюць у душах агеньчыкі дабра і цеплыні.

***Аксана Радкевіч,***
загадчыца Паліцкай бібліятэкі

<u>***Старонкі гісторыі***</u>

# БЕШАНКОВІЧЫ

*Каб упэўнена крочыць у дзень заўтрашні, трэба ведаць дзень мінулы. Давайце разам перагорнем некалькі старонак мінуўшчыны, тым больш ,што гісторыя нашага краю надзвычай насычаная падзеямі і іменамі.*

Першыя пісьмовыя ўпамінанні пра Бешанковічы датуюцца 1447 годам, калі быў атрыманы загад пабудаваць у розных месцах Беларусі, у тым ліку ў Бешанковічах,некалькі цэркваў.

Бешанковічы ў той час былі невялікай вёскай на беразе Дзвіны, на гандлевым шляху з Віцебска у Полацк, які быў часткай шляху «з варагаў у грэкі». Гэта спрыяла далейшаму развіццю паселішча.

З 1630 года Бешанковічы належылі канцлеру Вялікага княства Літоўскага,уражэнцу вескі Астроўна, Льву Сапегу. Пры Сапегу Бешанковічы набылі статус мястэчка,сталі цэнтрам воласці. У 1634 годзе Бешанковічы атрымалі Магдэбургскае права (права горада на самакіраванне). Статутам ВКЛ, у складанні якога прымаў удзел Леў Сапега, было дазволена праводзіць два месячныя кірмашы ў год і мець адзін гандлевы дзень кожны тыдзень.

Пасля смерці Сапегі у 1656 годзе Бешанковічы пераходзяць у валоданне да князеў Агінскіх.

***Працяг на 3 старонцы***

# НАЗВЫ НАШЫХ ВУЛІЦ.

Назвы вуліц любога горада звычайна адлюстроўваюць адметнасць гэтага горада, асобных яго мясцін, падзеі яго гісторыі, ушаноўваюць імёны знакамітых землякоў. А па якіх вуліцах ходзім мы? Ці адлюстроўваюць назвы на шыльдах Бешанковіцкіх вуліц адметнасць нашага горнасёлка?

Зацікавіўшыся гэтымі пытаннямі,я пайшла ў райвыканкам, спадзеючыся там знайсці спіс назваў вуліц. Не адразу, але такі спіс знайшоўся.

У спісе восемдзесят тры назвы вуліц і завулкаў.Сярод тыповых савецкіх: Інтэрнацыянальная, Камуністычная, Савецкая, імя Карла Маркса, шмат і адметных. У большасці гэта вуліцы, названыя імёнамі герояў Вялікай Айчыннай вайны: Абазоўскага, Янтэмірава, Вінера, Даватара, Дароўскага і іншых. Шмат вуліц названа імёнамі дзеячоў рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны: Урыцкага, Валадарскага, Чапаева, Крупскай. Яшчэ шэраг вуліц названы ў імя класікаў рускай літаратуры і жывапісу: Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Някрасава, Рэпіна, Сурыкава, нават М. Цвятаевай і Ул. Высоцкага.А з беларусаў толькі Купалы, Коласа і П. Броўкі. Ні Караткевіча, ні Багдановіча, ні Багушэвіча.

Прыемна было ўбачыць сярод новых назваў імя нашага славутага першадрукара Францыска Скарыны.

Але ёсць сярод назваў і такія імёны, якія выклікаюць, па меншай меры, неўразуменне – у чым дачыненне гэтых людзей да нашых мясцін? Напрыклад, імя Суворава. Вядомы рускі палкаводзец, не прайграўшы ніводнай бітвы, на Беларусі праславіўся хіба што тым, што патапіў у крыві нацыянальна-вызваленчае паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, які выступіў над лозунгам« Вольнасць. Цэласць. Незалежнасць.» у абарону Радзімы ад інтэрвенцыі Расіі. Суворaў дайшоў аж да Варшавы і далучыў тэрыторыю Беларусі да Расіі, за што атрымаў у падарунак маёнтак у Кобрыне (толькі пад Кобрынам тады палегла амаль дзве тысячы беларускіх сялян). Дык навошта мы ўслаўляем чалавека, які задушыў наш нацыянальна-вызваленчы рух?

У чым заслуга перад Бешанковічамі «усесаюзнага старасты» Калініна ці «жалезнага Фелікса» - Дзяржынскага? Мо лепш Льва Сапегу ўвекавечыць,які і нарадзіўся ў нашым раёне і шмат зрабіў для росквіту Бешанковічаў і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, канцлерам якога ён быў? Яму б тут помнік паставіць, ці хаця б памятную дошку на вуліцы яго імя.

На жаль, няма ў нас ні помнікаў, акрамя ўсюдыіснага Ільіча, ні памяці. Выкарчавана павага да вялікіх продкаў. Ні царская, ні савецкая ўлады не імкнуліся захаваць гістарычную памяць, культурныя і духоўныя здабыткі нашага народа – святыні Беларусі. Мы забыліся пра нашых асветнікаў, ваяроў, абаронцаў, кіраўнікоў вызваленчых паўстанняў, мастакоў, пісменнікаў,вучоных, што праслаўлялі беларускі народ і ў сябе дома і ў шырокім свеце..Сярод іх Рагвалод і Рагнеда, Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая, князі Міндоўг і Вітаўт, гетман Канстанцін Астрожскі, Касцюшка і Каліноўскі, Клеафас Агінскі і іншыя. Менавіта яны - наша трагічная і слаўная гісторыя, а не суворавы ды калініны.

Задушэўна гучаць нейтральныя назвы : Малінавая, Садовая, Палявая, Школьная. Зусім як у песні:

Прайду па Абрыкосавай, звярну на Вінаградную,
І на Цяністай вуліцы я пастаю ў цяні...

Можа гэта выйсце ў наш вірлівы час – такія мілагучныя назвы? Ва ўсякім разе не трэба турбавацца пры чарговай «перамене ўлады». А памяць? Зноў жа, як у песні, з памяццю ў нас даўно «нешта зрабілася».

***В.Гракун***

# БЕШАНКОВІЧЫ.

***Працяг, пачатак на 2 старонцы***

У час Паўночнай вайны 1700-1721 гадоў Бешанковічы тройчы наведваў цар Петр I.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. Задзвінне і частка весак расна перайшлі да Расіі.Граніца праходзіла па Заходняй Дзвіне.Дарэчы, з тых часоў і назвы весак Рубеж і Кардон. Бешанковічы былі падзелены на дзве часткі і належылі адначасова і Расіі і Рэчы Паспалітай.У польскай частцы быў касцел, уніяцкая царква і каля 1000 двароў,у рускай-праваслаўная царква ,каля 500 двароў і таможня.

У 1783 годзе Агінскія перадалі права валодання маенткам Бешанковічы І.А.Хрыптовічу, маршалку ВКЛ, які потым быў міністрам замежных спраў і канцлерам .Бешанковічы ў той час - адзін з буйнейшых гарадоў Беларусі, Бешанковіцкі кірмаш - другі па значнасці пасля Зельвенскага.

У час Айчыннай вайны 1812 года Бешанковічы былі заняты французамі, тут пабываў імператар Напалеон Банапарт. 13-14 ліпеня 1812 года адбылася вядомая бітва пад Астроўна.

Першыя прамысловыя прадпрыемствы з'явіліся ў нашых мясцінах у 30-х гадах IXX стагоддзя, гэта былі вінакурныя заводы у Фролкавічах і Харакове. Дзвіна ў той час была судаходнай,з 1881 года па ёй пачаў хадзіць першы параход, які звязваў Віцебск з Бешанковічамі і Улай.

У пачатку дваццатага стагоддзя Бешанковічы - цэнтр воласці, тут есць пошта, тэлеграф, царкоўна - прыходская школа, 4 пастаялыя двары, 3 народныя вучылішчы, 127 крам. Пражывала 3987 жыхароў.

***Паводле кнігі А.Крачкоўскага***

## Частка першая. БЕЛАРУСЬ.

Роўна ў намечаны час наш бліскучы "нэаплан" узяў накірунак да заходняй мяжы. Прамільгнулі апошнія рэкламы горада. Да пабачэння, сталіца!

Беларусь, як і іншыя краіны, пачынаецца з дарог. Неблагія, на наш погляд, магістралі не ідуць ні ў якое параўнанне з дарогамі заходніх краін. На абочынах – суцэльныя сметнікі: пустыя пластыкавыя бутэлькі і пакеты, шматкі паперы, шкло і нешта яшчэ, таму што на сотні кіламетраў дарогі няма ніводнай прыбіральні. Дробязь? Не скажыце, - адзін з элементаў агульначалавечай культуры. Прывыкнуўшы хадзіць " да ветру", нашы суайчыннікі за мяжой дамашніх традыцый не парушаюць, таму і прымаюць нас там як не вельмі жаданых гасцей.

Але я забег крыху наперад. На беларуска – польскай мяжы нас чакала шматгадзінная чарга, хаця сам кантроль нашых папер і багажу заняў лічаныя хвіліны. Крыўдна за нашу краіну, дзе, пачынаючы з мяжы, дарэмна марнуецца столькі часу, дзе мала-мальскі чынуша дзярэ нос і лічыць астатніх (не раўня сабе) калі не быдлам, дык людзьмі другога гатунку і адпаведна да іх адносіцца.

Здзіўляе мужнасць і спрактыкаванасць нашых бабулек, якія ў прыгранічнай чарзе робяць свой старэчы бізнэс на піве, кефіры, цыгарэтах, гарэлцы, таму што дзяржаўны гандаль не прапаноўвае нічога.

## Частка другая. ПОЛЬША.

Пасля беларускіх "дробязяў, якія ўсёж балюча ўразаліся ў памяць, у Польшы нічога не напаміналa аб тым, што гэта краіна разам з намі амаль паўстагоддзя будавала сацыялізм. Ад безлічы заправак, бараў, рэстаранаў, бістро і гатэляў уздоўж дарогі аж шарыла ўваччу. Многія шыльды на рускай мове. Яблыкі, бульба, цыбуля ўздоўж дарогі розных сартоў, прычым значна танней, чым у нас. Польскае дзіва? Ды не, гэта звычайны шлях, якім прайшлі ўсе цывілізаваныя краіны: ад дробнага ўласніка да буйнога бізнэсу. Чамусьці не з'елі Польшу буйныя акулы з захаду, якія ўклалі свае сродкі ў пераабсталяванне адсталых польскіх прадпрыемстваў. Наадварот,яны дапамагаюць Польшы трымаць на плыву эканоміку, даюць працоўныя месцы і няд рэнны заробак насельніцтву і сваю выгаду пры гэтым не губляюць.

Адна з характэрных прыкмет Польшы – навабудоўлі. Жылыя дамы будуюць часцей за ўсё на нямецкі манер: двухпавярховы прасторны дом з чарапічным дахам, мансардай і балконам. А яшчэ ўражваюць сады, якія то справа, то злева роўнымі дагледжанымі радамі разбягаюцца ад дарогі. Узрост садоў – самы прадукцыйны, няма запушчаных перастаркаў, якія прывычна займаюць месца ў нас.

Знаёмы паляк, з якім мы тыдзень разам працавалі ў баўэра, расказваў, што яго бацька мае 20 гектараў ворнай зямлі, пяць кароў,трактар Т-25 і двухпавярховы дом. Калі аднойчы баўэр не вельмі паважліва адазваўся аб польскай гаспадарцы, мой знаёмы адрэагаваў рэзка: "Вы яшчэ пабачыце на што мы здольныя!".

А ці здольныя мы? Ці ўзнімемся мы хаця б да ўзроўню Польшы, ці так і пойдзем сваім шляхам у светлае ўчарашняе?

*(працяг у наступным нумары)*

**Г. Станкевіч**



Народзе мой, родны народ!
Ты цёмны, сляпы,быццам крот.
Не я гэта выдумаў, браце.
І столькі ўжо часу прайшло,
Струменіць паўсюду святло,
Ды змрок і бяда ў тваёй хаце.
І цёмным ты быў і сляпым,
І, пэўна, застанешся ім.

**Г. Станкевіч**

" Кардон " - інфармацыйна-публіцыстычны бюлетэнь Віцебскай абласной Рады " Таварыства беларускай мовы" імя Францыска Скарыны ( для Бешанковіцкага раёна).Выходзіць пры падтрымцы Віцебскай філіі Фонду падтрымкі дэмакратычных ініцыятыў імя Льва Сапегі. Рэдкалегія: В. Гракун. А. Бабаед. Г. Станкевіч.Наклад 299. Распаўсюджваецца бясплатна. № 4. лістапад 1999.